# Самапомач Самаромач

Беларуская Коопэратыўна-Гаспадарчая Часопісь

| Год V. | Вільня, Ліпень-Жнівень 1936 г. | № 7-8. |
|---|---|---|

*Хай злыдні над намі,*
*скрыгочуць зубамі*
*Любі сваю ніву, свой*
*край,*
*І, колькі ёсьць сілы,*
*да самай магілы*
*Ары, барануй,*
*засявай!.*

ЯНКА КУПАЛА.



*Усе вялікія падзеі народаў і ўсе цывілізацыі былі створаныя дабравольнымі стараньнямі аб'яднаных людзей... самапамачу.*

Джордж РЭССЭЛЬ
(Ірляндзец).



## ЗЬМЕСТ № 7-8 (48-49).



# Ceny ŭ Vilni

**Zbožža.** *29.VII.36, za 100 kilohram.*

| | |
|---|---|
| Žyta . . . . . . . . . . . | — 13.52 |
| Pšanica . . . . . . . . . . | 17.50—19.00 |
| Jačmień na pansak . . . . . | 14.00—15.00 |
| Avios . . . . . . . . . . . | 13.25—14.75 |
| Hračycha . . . . . . . . . | |
| Muka pšaničnaja . . . . . . | 21.00—38.50 |
| Muka žytniaja da 50% . . . . | 22.50—23 00 |
| „ „ da 65% . . . . | 20.00—20 50 |
| Muka razovaja da 95% . . . | 16 50—17.00 |
| Votruby pšaničnyja . . . . . | 9.00—9 50 |
| Votruby žytnija . . . . . . . | 8 50—9.00 |
| Łubin sini . . . . . . . . | 9 75—10.75 |

**Małočnaje za 1 kilo (31.VII 36).**

| | |
|---|---|
| Masła najlepšaje, I. sort za kil. ŭ hur. | 2.40—2 50 |
| „ „ „ „ „ u detalu | —2.80 |
| Masła stałovaje II sort za kilo ŭ hurcie | 2.30—2.40 |
| „ „ „ „ „ u detalu | —2.70 |
| Syr litoŭski, za kilo ŭ hurcie . . | 1.30—1.60 |
| „ „ „ „ u detalu . . | 1.60—2.00 |
| Syr ementalski (švajc.) za kilo ŭ hurcie | 2.40—2.50 |
| „ „ „ „ „ u detalu | —3.00 |
| Jajki, kapa . . . . . . . . . | 3 60—4.80 |
| „ za štuku . . . . . . | 7—9 hraš. |

**Miasnoje 29.VII.36.**

*Za kilo žyvoj vahi:*

| | | |
|---|---|---|
| **Bydła:** | stadniki . . . . . . . . | 0.33—0,48 |
| | karovy . . . . . . . . . | 0.30—0,45 |
| | cialaty II sort . . . . . | 0.50—0.55 |
| **Švini:** | . . . . . . . . . . . | 0.70—0 85 |
| **Miasa:** | vałovina, całyja štuki . . | 0.65—0.75 |
| | vałovina, zady . . . . . | 0 80—1.00 |
| | vałovina, pierady (košar) . | 0 90—1.10 |
| | švinina . . . . . . . . | 1 00—1.15 |
| **Skury syryja:** | bydlačyja pa 1.05—1.10 zł. za kolo | |
| | cialačyja — 6.00—6.25 zł. za štuku. | |



# Samapomač

BIEŁARUSKI KOOPERATYŬNA - HASPADARSKI ČASAPIS.

Adres:
VILNIA (Wilno), Połackaja vul. 9—4.

# Самапомач

| Hod V. | Vilnia, Lipień Žnivień 1936 h. | Nr. 7-8 (48-49). |
| --- | --- | --- |


## *Kooperatyŭna-haspadarskija naviny.*

**Ab ziamielnaj reformie ŭsio havorać**

Kolki raz dachodzić da ŭnutranaj - palityčnych razyhryvak pamiž polskimi palityčnymi partyjami, hetulki raz vyciahvajecca z pyłu sprava „ziamielnaj reformy“, jakoj kožny choča „aščaślivić“ mužyka. Usie hetyja hutarki adnak dahetul majuć vartaść tolki palityčnaha vabika, kab pryciahnuć na svaju staranu samoje sialanstva. Zapraŭdnaj-ža haspadarčaj karyści z hetaj „reformy“ na słovach sialanie nie dačkajucca, bo na hetkuju reformu musili-b mieć upłyŭ sami sialanie, a jany siahońnia... ad upłyvaŭ daloka. Tymbolš niečaha putnaha spadziavacca ad hetych abiacanak sielaninu biełarusu. Bo kali jaki dvor i byŭ by tut uziaty na rasparcelavańnie, dyk na hetyja ziemli pryviazuć uznoŭ chmary takich samych asadnikaŭ i kolonistaŭ, jakich i tak užo majem bolš jak dosyć. Dyk nie čakać na niejkaje ščaście ci pamiłavańnie i nia vieryć tym, chto da hetaha nahavarvaje! Treba mocna trymacca svajho zahonu, pamiatujučy, što chto na jaho vostryć zuby, toj jość voraham našaha sialanstva i jnakš jak z voraham abychodzicca z im nia možna.

**Sprava začotaŭ na zbožža.** Na 1936-37 h. ŭstanoŭlena było na začoty za zbožža 15 mil. zł. Pa pazyčki z hetaha fondu možna zvaročvacca praz miascovyja aščadna-pazyčkovyja kasy. Kali chto mieŭ pazyčku z hetaha fondu letaś, dyk pierš čym zvaročvacca pa pazyčku sioleta, treba mieć spłačanuju pazyčku letašniuju.

**Umiejuć pracavać tolki z „subwencjami“.** Sajuz Ziemlaroaskich Pałat zainicyjavaŭ „šyršuju akcyju“ „kooperatyŭnaha“ zbytu skaciny i šviniej praznačanych na zarez. Na hetu akcyju ŭžo jość i „plan“, jaki pradbača „subwencyi“ (hrašovyja dapamohi) z dziaržaŭnaha Ziamielnaha Banku, a znača z hrošaŭ padatkavych... Meta dobraja, ale šlachi da jaje zusim nie adpaviednyja. Ale subvencyi, jak vidać, stalisia ŭžo ŭrodžanaj chvarobaj polskaj haspadarki... Dla nas-ža heta najhoršaja škoła, jakaja tolki moža być.

**Budaŭlanyja pazyčki dla sialan** buduć vydavacca z Centr. Kasy Ziemlarob. Supałak praz kredytovyja kooperatyvy drobnym ziemlarobam da vyšyni najbolš 600 zł. Pazyčki buduć vydavacca ŭ pieršuju čarhu na dakančeńnie pačatych budynkaŭ. Apracentavańnie hetych pazyčak ličycca 4 zł. z sotni.

**Dobraja knižka.** Dla zahadčykaŭ spažyvieckich kooperatyvaŭ i dla kožnaha chto cikavicca štodziennym žyćciom kooperacyi, „Społem!“ vydaŭ vielmi cenny padručnik u polskaj movie p. n. „Podręcznik dla sklepowych spółdzielni spożywców“. Knižka abyjmaje 332 bač. i kaštuje 3 zł. 50 hr.

**Pamior praf. St. Biedrzycki** (12.7), jaki čytaŭ lekcyi z mašynaznaŭstva dajezdam z Varšavy i na Vilenskim Universytecie. Niabožčyk karystaŭsia vialikaj pavahaj jak siarod śvietu vučonaha, tak i siarod siarmiažnaha sialanstva.

**Zakup koniaŭ dla vojska** sioleta budzie adbyvacca na našych ziemlach u hetkim paradku: dnia 13 i 14 kastryčnika — u Niaśvižy (Navahradčyna), 15 kastryčnika — u Hłybokim, 21 kastryčnika — u Słonimie, i 23 kastryčnika — u Brasłaŭi. — Kuplać buduć kaniaŭ i kabyły ŭ vieku ad 3 da 6 hadoŭ uklučna.

Kab być dapuščanym na hety zakup koniaŭ, treba najpaźniej da dnia 23 vieraśnia siol. upisać pradažnaha kania ŭ asobnyja špiski (katalohi). Hetyja zapisy i padhatoŭčy pierahlad budzie rabić hadaŭlany inspektar u nastupnym paradku:

| | | | |
| --- | --- | --- | --- |
| 17 | žniŭnia, hadzina | 10 — | u Kareličach, |
| 18 | „ | „ 9 — | u Miry, |
| 19 | „ | „ 9 — | u Harodziei, |
| 20 | „ | „ 9 — | u Niaśvižy, |
| 21 | „ | „ 9 — | u Klecku, |
| 22 | „ | „ 9 — | u Lachavičach, |
| 24 | „ | „ 11 — | u Volnaj, |
| 25 | „ | „ 9 — | u Snovie, |
| 26 | „ | „ 10 — | u Rahotnaj, |
| 27 | „ | „ 9 — | u Kazłoŭščynie, |
| 28 | „ | „ 9 — | u Słonimie, |
| 29 | „ | „ 9 — | u Miežavičach, |
| 31 | „ | „ 9 — | u Baranavičach, |
| 4 | vieraśnia | „ 9 — | u Iviancy, |
| 5 | „ | „ 9 — | Dareŭnie k/Staŭp. |
| 8 | „ | „ 9 — | u Kryvičoch, |
| 9 | „ | „ 9 — | u Parfienavie, |
| 10 | „ | „ 9 — | u Hłybokim, |
| 11 | „ | „ 10 — | u Łužkoch, |
| 12 | „ | „ 10 — | u Varapajevie, |
| 14 | „ | „ 10 — | u Miadziele, |
| 15 | „ | „ 9 — | u Miorach, |
| 16 | „ | „ 10 — | u Drui, |
| 17 | „ | „ 9 — | u Brasłaŭi, |
| 18 | „ | „ 9 — | u Opsie, |
| 19 | „ | „ 9 — | u Mielegianach, |

# Сельская гаспадарка.

## Ужываньне штучных гнаёў пад азіміны.

Агульная непаплатнасьць земляробства ў апошніх гадох сапхнула, можна сказаць, ужываньне штучных гнаёў на самы шэры канец. Зьмяшчаючы гэтых колькі ўваг аб ужываньні штучных гнаёў пад азімыя пасевы, мы далёкія ад таго, каб ужываньне гэтых гнаёў сягоньня скрозь і кожнаму радзіць. Зусім не. Пішамжа аб гэтым на тое, што некаторыя нашы чытачы выразна гэтага жадаюць. А пасьля, калі ўжо нехта адважыцца на выдатак на штучныя гнаі, дык павінен ўжываць гэтыя гнаі ўмела, бо йнакш замест карысьці можа быць шкода. — Рэд.

### Якія фосфарныя гнаі даваць пад азіміну?

Прыбліжаецца пара пасеву азімага збожжа. Не адзін гаспадар думае над тым, які фосфарны гной даць пад азімае жыта ці пад азімую пшаніцу. Справа гэта ня ёсьць лёгкаю. Тут трэба добра сабе уявіць:

а) які грунт маем на полі: цяжкі ці лёгкі і

б) які фосфарны гной найлепш прыгодны на наша поле?

Звычайна іншы фосфарны гной трэба даваць на грунты цяжэйшыя, а іншы на грунты лёгкія. Дзеля гэтага трэба знаць свомасьці (ўласьцівасьці) кожнага фосфарнага гною асобна.

Вартасьць фосфарных гнаёў ацэньваецца ў залежнасьці ад таго, як здольны распускацца фосфарны квас, які знаходзіцца ў гнаі.

Фосфарны квас, які знаходзіцца ў супэрфосфаце распускаецца ў вадзе.

Фосфарны квас, які знаходзіцца ў супэртомасыне, распускаецца ў амонным цытрыніяне, знача ў растворы ня толькі зусім нэўтральным, але й выразна алькалічным.

Фосфарны квас у томасоўцы (томасшляку) распускаецца ў 2 проц. цытрыновым квасе, знача ў слабым, але чыстым квасе.

Як бачым, найлягчэй распускаецца фосфарны квас, які знаходзіцца ў супэрфосфаце, а найцяжэй — у томасоўцы. Сярэдняе месца што да распускальнасьці фосфарнага квасу займае супэртомасына.

**Супэрфосфат** ёсьць добрым гноем для грунтоў лепшых і не за цяжкіх, дзе разлажэньне адбываецца павольна, знача на чарназёмах і на глінястых грунтох, якія маюць у сабе крыху вапны, або, другімі славамі, якія ня квасныя. Высейваць супэрфосфат можна перад засевам збожжа, або аднačасна. У тым і ў другім выпадку гной, зараз-жа пасьля высеву, трэба добра прыбаранаваць. Прад самым высевам можна мяшаць супэрфосфат з садоваю салетраю, сярчаньнікам амону і салямі потасу. Ня можна мяшаць супэрфосфату з гнаямі, якія маюць у сабе вапну.

---

## Haspadarčaja prahrama spažyviecкaj kooperacyi.

Nižej źmiaščajem źmiest referatu praf. M. Rapackaha. Padany jon byŭ jak prajekt da dyskusii, jakaja maje adbyvacca u akruhoch. Prajekt utrymany ŭ duchu polskim i jaho treba hetak i razumieć. Ale ŭ ahulnaj kanstrukcyi jon davoli cikavy. — Red.

...Pieražyvajem paru nia hetulki kryzysu ci pierasileńnia, ale peŭny hramadzka-haspadarčy pierałom. Hety pierałom biaz sumnivu isnuje. Jahonaja aznaka — biezraboćcie na śviecie, biezraboćcie ŭzrastajučaje pamima ŭsiakich abjavaŭ časovaj popravy. Navat u tych krajoch, dzie heta paprava dajecca zaŭvažyć, biezraboćcie źmianšajecca tolki niaznačna i časova, nie apadajučy nikoli da normaŭ pradkryzysovych. **Niezapiarečanym faktam jość, što jość dosyć pracoŭnych ruk, dosyć syrca, dosyć srodkaŭ pradukcyi i adnačasna isnuje niedabor, isnujuć niedachopy ŭ zaspakojvańni patrebaŭ šyrokich mas hramadzianstva navat u krajoch bahatych.** Jość miljony, dziesiatki miljonaŭ ludziej, jakija niedajadajuć i nia mohuć dosyć zaspakoić navat najpieršyja patreby.

Niaŭmieńnie, niazdolnaść znajści vychad z hetaha pałažeńnia pry sučasnym ładzie pakazvajuć na toje, što abmyłka znachodzicca ŭ samaj asnovie, u samaj padstavie dahetulašniaj arhanizacyi hramadzkaj haspadarki. Biazsumniŭna, hramadzka-haspadarčy ład, ci to hety, jaki majem ciapier, ci łady, jakija čałaviectva kali-niebudź pierażyło, nia jość spravaj viečnaj. Ludzkaja hramadzkaść jość arhanizacyjaj žyvoj, jakaja raźvivajecca ŭ kirunku daskanaleńnia i źmieny. I ŭ zaležnaści ad hetych źmien, čałaviectva znachodzić takija ci inšyja formy svajho bytavańnia, starajučysia znajści takija, katoryja najlepš adkazvali-b jahonym patrebam. Ad taho času, kali dadzienaja forma ładu pierastaje najlepšym sposabam zaspakojvać patreby danaha hramadzianstva, ad hetaj chviliny paŭstaje ŭ kožnym hramadzianstvie imknieńnie znajści formu lepšuju.

Ciapier jakraz pieražyvajem hetkuju paru. Musim skazać sabie zusim jasna, što nia majem nijakaj pryčyny ćvierdzić, nia majem najmienšaha dokazu na toje, što ład, jaki siańnia isnuje, jość ładam (paradkam) akančalnym, ładam daskanalnym i što treba było-b u im parabić tolki siakija-takija papraŭki, kab adkazvaŭ hramadzkim patrebam...

**Тамасоўка** свомасьцямі сваімі прыдаецца найбольш на грунты квасныя, лёгкія, прапускныя і на пяскі, таксама і на пагнойваньне на запас, бо трымаецца ў зямлі праз два-тры гады. Тамасоўка ёсьць гноем перадпасеўным. Высейваць яе трэба на 2—3 тыдні перад засевам расьліны. Высееную тамасоўку трэба зараз-жа перамяшаць з зямлёй, лёгка прыворуючы, ці прыкрываючы культыватарам ці ўрэшце цяжкімі баронамі.

**Супэртомасына** мае ў сабе фосфарны квас у форме больш рухлівай і лягчэй распускной чым томасоўка. Пасьля, супэртомасына мае ў сабе больш як томасоўка вапны і таму добра прыдатнай бывае на адквашваньне грунтоў. Паводле сваіх свомасьцяў **супэртомасына надаецца на ўсякі грунт.** Асабліва карыснай бывае яна на грунты цяжкія, зьліўныя й квасныя. Супэртомасына ёсьць гноем прадпасеўным. Высейваць яе трэба на 1—3 дні прад пасевам расьліны. Пасьля высейваньня — зараз-жа забаранаваць. Можна мяшаць супэртомасыну на даўжэйшы час перад высевам — з азотняком, а прад самым высевам — з каінітам ці патасовымі солямі. Ня можна мяшаць супэртомасыны з сярчаньнікам амону, з вапнаамонам, салетраком і наагул з тымі азотнымі гнаямі, якія маюць у сабе азот цэласьцю або часткава ў форме амоннай. Перахоўваць супэртомасыну трэба ў сухім месцы*)

Цяпер астаецца йшчэ падаць, колькі фосфарных гнаёў высейваецца на 1 гэктар:

*) гэта адносіцца да кожнага штучнага гною—р э д.

**Пад азімую пшаніцу:** высейваецца супэртомасыны 16 проц., або супэрфосфату 200—250 кілёграмаў на гэктар.

**Пад азімае жыта:** высейваецца супэртомасыны 16 проц , ці супэрфосфату 200—250 клг., або 300 клг. томасоўкі (томасыны) на гэктар.

## Якія азотныя гнаі даваць пад азіміны?

Маем чатыры групы азотных гнаёў, менавіта: I група — гнаі салетраныя, II група — гнаі амонныя, III група — гнаі салетра-амонныя і IV група — азотняк.

**САЛЕТРАНЫЯ ГНАІ** — маюць у сабе азот у форме салетры, якая вельмі хутка корміць расьліну й лёгка распускаецца ў вадзе, але ня ўпіваецца ў грунты і дзеля таго лёгка выпаласківаецца; таму салетрай найлепш гнаіць расьліны паверсе. Для пагнойваньня прадпасеўнага салетра менш прыгодная. Да салетраных гнаёў належаць: **салетра вапновая і салетра содкая.**

**АМОННЫЯ ГНАІ** — маюць азот у форме амоньяку, палучанага з квасам, лёгка распускаецца ў вадзе й да таго — упіваецца ў грунты, таму ня могуць быць так лёгка выпаласканы з грунту, як гнаі салетраныя — добры гной прадпасеўны, але толькі на грунтох ня квасных. На грунты заквасьнелыя (падмоклыя) амонныя гнаі ня прыгодныя. Да амонных гнаёў належыць: **сярчаньнік амону, хлёрнік амону і вапна-амон.**

**САЛЕТРА-АМОННЫЯ ГНАІ** — маюць у сабе палавіну азоту ў форме салетранай і

---

Sučasnaja sytuacyja ŭ haspadarcy charakteryzujecca — jak ja ŭžo ab hetym uspomniŭ — stała ŭzrastajučym biezrabоćciem, dalej — niapoŭnym vykarystańniem pradukcyjnaj zdolnaści varštataŭ pramysłovych, vializarnym niavykarystańniem syrca, źnižkaj cenaŭ i nieapłačalnaściu varstataŭ ziemlarobskich. Usio hata źjaviščy, jakija ŭściaž bačym. Hałoŭnaj pryčynaj hetych źjaviščaŭ, kali havaryć ab źjaviščach vonkavych, jość pieradusim niasumiernaść pamiž pradukcyjnaj siłaj ziemlarobstva i promysłu, dy zdolnaściu j siłaj nabyŭčaj šyrokich mas hramadzianstva. Pradukcyjnaja zdolnaść promysłu j handlu mahła b być pry sučasnaj kolkaści syrca, pracoŭnych sił, a navat varstataŭ i mašyn,—padvojnaj navat. Adnak heta stacca nia moža dziela taho, što nabyŭčaja siła šyrokich mas nie adpaviadaje ichnim patrebam, astajučysia ŭ niasumiernaści z pradukcyjnaj zdolnaściu promysłu j ziemlarobstva.

Kali jdzie ab cyfry, dyk statystyčnyja dadzienyja pakazvajuć nam na niavykarystańnie pradukcyjnaj zdolnaści varstataŭ navat u hadoch najlepšaj końjunktury. I tak, u 1928 h. ŭ Zł. Štatach z isnujučych 343 hutničych piečaŭ čynnych było tolki 130, u Anhlii z 427 — 141. Kali chodzić ab Polšč, dyk u 1926 h., a znača ŭ paru siakoj takoj końjunktury, mieli my hetkija ličby: kapalni byli vykarystany ŭ 56 proc., rafineryi nafty — 65 proc., cukravarni — 70 proc., fabryki štučnych hnajoŭ — 40 proc., harbarni — 55 proc., cementoŭni — 41 proc., draždžoŭni — 33 proc., fabryki abutku — 37 proc. Heta nam pakazvaje, što mahčymaści rasšyreńnia pradukcyi pry sučasnaj kolkaści pracoŭnych ruk i sučasnaj zdolnaści pradukcyjnaj varstataŭ — isnujuć.

Adnačasna isnuje niemahčymaść vykarystać syrec, jakoha jość davoli. Tut chaču źviarnuć uvahu, što navat u paru najlepšaj końjunktury, z pryčyny niasumiernaści pamiž nabyŭčaj siłaj nasielnictva i pradukcyjnaj zdolnaściu promysłu, varstaty nia tolki nia byli całkom vykarystany, ale zapasy jšče ŭzrastali...

A znača, pryčyny treba šukać nie ŭ niazdolnaści da pavialičańnia pradukcyi, nie ŭ niastačy syrca i pracoŭnych ruk, ale ŭ čymś inšym. Musim razhledzić druhuju staranu pytańnia...

Treba ścvierdzić, što nabyŭčaja siła na-

палавіну ў форме амоннай і таму маюць свомасьці гнаёў напалавіну салетраных і напалавіну амонных. Да салетра-амонных гаёў належаць: **салетрак і нітрафос,** які вырабляецца з амоннай салетры.

**АЗОТНЯК** — гэта гной, які мае ў сабе азот у форме цыянаміду вапны, які лёгка распускаецца ў вадзе і ўпіваецца грунтам і дзеля таго з яго не выпаласківаецца. Азотняк ёсьць добрым прадпасеўным гноем блізу на ўсе грунты, з выняткам грунтоў чыста пяшчаных і тарфяных, затое да пагнойваньня на ліст — ня прыгодны. Азотняк бывае грануляваны (буйны) і мелены, а мелены акрамя таго бывае наалеены і ненаалеены (пылкі).

Як бачым, з усіх чатырох груп азотных гнаёў — для прадпасеўнага гнаеньня пад азіміны прыдатны бываюць гнаі: амонныя, салетра-амонныя і азотняк.

**Пад азімую пшаніцу:** высейваецца каля 100 клг. салетраку ці азотняку.

**Пад азімае жыта:** высейваецца 70—90 клг. азотняку ці сярчаньніку амону.

Азотняк трэба высейваць за 3—4 дні перад пасевам сяўбы.

Пасьля высеяньня азотняку, сярчаньніку амону ці салетраку — зараз-жа трэба прыкрыць зямлёй.

Для тых гаспадароў, якія адначасна гнояць поле пад азіміну азотнымі й фосфарнымі гнаямі — добра прыдатны гнаі фосфарна-азотныя, як **азотнякаваная супэртомасына і амоньякальны супэрфосфат,** якіх даюць на гэктар 130—180 клг.

# Як гадаваць пшаніцу.

Пшаніца гэта расьліна лепшых грунтоў чым жыта. Лепшага вымагае яна і дагляду. Грунт пад пшаніцу мусіць быць у добрай культуры і дзеля таго ня можна яе сеяць на навінах.

У гаспадарчым севазвароце найлепш даваць пшаніцу пасьля рэпіцы (рэпак), якая рана зьбіраецца з поля і пакідае грунт у добрай будове і пульхны, чысты ад усякага пусталельля (быльля). Добра таксама сеяць пшаніцу пасьля матылякветых, як канюшына і стручковых — сачыўка, бо яны таксама пакідаюць зямлю чыстую ад быльля, у добрай будове і да таго — узбагачваюць зямлю на азот. — Адна толькі пры гэтым небясьпека: па буйнай канюшыне і наагул па расьлінах узбагачываючых зямлю на азот, пшаніца вельмі пагоне ў салому і вылягжа. Дзеля таго сеючы пшаніцу пасьля канюшыны трэба прыгнойваць супэрфосфатам: устрымае гэта пшаніцу ад паляганьня, а да таго — яна бу-

Высейваць азотнякаваную супэртомасыну трэба за 1—3 дні прад высевам сяўбы.

Пасьля высеяньня азотнякованай супэртомасыны ці амоньякальнага супэрфосфату— трэба поле зараз-жа забаранаваць.

Усякія штучныя гнаі купляць трэба ў добрых, пэўных крамах, бяручы ад іх пісьменную заруку аб тым, што ў купляным гнаі ёсьць гэтулькі і гэтулькі працэнтаў самай гнойнай вартасьці.

**Інж. А. Р.**

sielnictva jość vielmi małaja. A što-ž heta takoje nabyŭčaja siła?

Zdolnaść spažyćcia jość vialikaja. Nasielnictva ŭva ŭsich blizu krajoch mienš-bolš chutka ŭzrastaje, a znača i zdolnaść spažyćcia, choć-by z uvahi na pryrost nasielnictva, pavinna ŭzrastać. A jšče-ž pavinny źjavicca patreby novyja. Dziela hetaha, kali heta zdolnaść pierastaje ŭzrastać, dyk nie dziela taho, što nasielnictva źmianšajecca, abo što nia choča kuplać, ješči j apranacca, ale dziela taho, što źmianšajecca jahonaja siła nabyŭčaja, jakaja vyražajecca ŭčaściem u hramadzkim dachodzie.*) Čym hramadzki dachod nasielnictva jość bolšy, tym bolšaja jahonaja siła spažyćcia. Hramadzki dachod šyrokich mašaŭ jość nievystarčalny, ichniaje ŭčaście ŭ hramadzkim dachodzie jość zamałoje i nia mohučy dziela hetaha zaspakoić svaich patrebaŭ, nia mohuć hetyja masy naležna raźvić svaje zdolnaści spažyćcia.

Ale moža chto zapytać, čamu jakraz ciapier pajaviłasia heta źjavišča, što ŭčaście šyrokich mas u hramadzkim dachodzie jość nievystarčalnym?— Dziela vielmi prostaj pryčyny. Padstavaj kapitalistyčnaha ładu ŭ halinie padziełu hramadzkaha dachodu jość apirańnie pradukcyi i abmieny na zasadzie zysku z kapitału ŭłožanaha ŭ hetu pradukcyju, a nie na zasadzie zaspakajeńnia patrebaŭ, katoraja jość tolki srodkam da asiahnieńnia zysku. Kali-b kapitał byŭ roŭnamierna raściarušany pasiarod usiaho nasielnictva kraju, dyk tady hetkaje praviła padziełu zysku mahło b utrymacca. Ale nažal, kapitał, kali mova ab bolšaści pramysłu, maje tendencyju jakraz praciŭnuju.

Kapitał maje tendencyju da koncentracyi. Vialikija pradpryjemstvy vypirajuć pradpryjemstvy małyja i drobnyja. Hetkim sposabam źmianšajecca kruh tych, što majuć kapitał jak srodak vytvorčaści u formie pradpryjemstvaŭ pracujučych dziela zysku, pry zaspakajeńni hramadzkich patrebaŭ (aprača ziemlarobstva); nastupaje novaje źjavišča: ułaśniki pramysłovych pradpryjemstvaŭ nia mohuć spažyć i tymsamym puścić u kruhavarot toj hramadzki dachod, jaki im astajecca — nia mohuć hetaha spažyć navat pry najbolš luksusovaj konsum-

*) Hramadzki dachod heta suma ŭsich dachodaŭ z kožnaha haspadarskaha abjektu: dachod pradpryjemca i jahonaj siamji, dachod słužby, pracenty z pazyčanych u pradpryjemstva kapitałaŭ i ŭsie padatki—t. ł. u m.

дзе ўмалотнай. — Добра родзіць таксама пшаніца на бульбянішчах (гноеных пад бульбу). Найгорш сеяць пшаніцу пасьля каласістага збожжа, але на ўраджайных чыстых ад зельля грунтох і гэта зусім магчыма.

Грунт пад пшаніцу не патрабуе быць „улежаным", як гэтага вымагае напр. жыта, пшаніцу можна сеяць у сьвежую ральлю. Глыбака араць пад пшаніцу таксама ня трэба, досыць узараць на глыбку 15 см. Лішняга пераварочваньня глебы пад пшаніцу ня трэба: досыць, калі глебу ўзараць (падклад), забаранаваць і „ўзьмяшаць". Характэрна, што пшаніца любіць неразьбітыя грудкі зямлі на паверхні поля, якія бароняць яе ад вятроў.

Пшаніца мае слабейшае ад жыта карэньне. А карэньне ў расьліны гэта тое, што зубы ў чалавека — таму пшаніца больш пераборлівая ад жыта на ўгнаеньне, якое ёсьць ейным кормам. Калі сеем пшаніцу пасьля рэпіцы, канюшыны, гароху, выкі і інш. матылякветых расьліна, дык азотных угнаеньняў яна не патрабуе. Калі-ж сеем пшаніцу пасьля расьлін збажжовых, або пасьля бульбы, дык трэба прыгнойваць штучнымі гнаямі азотнымі. Даючы пад пшаніцу азотняк, трэба яго даваць увосені прад пасевам. Фосфарныя ўгнаеньні, як ужо сказана вышэй, маюць уплыў на рост і дасьпяваньне зярняці. На лепшых грунтох даецца супэрфосфат, а на слабейшых — томасыну. Калі гдзе небудзь садзіцца шмат бульбы, якая выцягвае з глебы вельмі многа поташу, дык у такіх мясцох трэба йшчэ прысейваць і ўгнаеньняў поташу: на слабшых грунтох — каініт (300 клг. на га), а на мацнейшых — паташ. Як кожнае збожжа, так і пшаніца ня любіць сьвежага ўгнаеньня хляўным гноем. Але калі-б так улажылася, што іншага гною, апрача хляўнога, ня было, дык не давайма яго за раз больш 200 q на гэктар.*) Гнаеньне пад пшаніцу сьвежым хляўным гноем не пажадана дзеля таго, што пшаніца наагул сьвежае гнаеньне кепска выкарыстоўвуе, а пасьля — пшаніца ад гэтага гнаеньня заражаецца галаўнёй, расьце ў салому і вылягае.

Высейваецца пшаніца пазьней чым жыта, бо яна кусьціцца (вырастае ў куст) аж на вясну. Ня трэба лішне пужацца нават тады, калі-б такая пшаніца да зімы не паўсхадзіла. Дзеля ўсяго гэтага час севу пшаніцы гэта другая палова м-ца верасьня. Калі сеяць пшаніцу сеялкай, дык на добрых і добра ўгноеных грунтох трэба даць на гэктар 130 кілё сяўбы, на грунтох горшых — 180 кілё. Сеючы з рукі трэба даваць на гэктар больш-менш 200 кілё.

Пшаніца лепш ад жыта выносіць надмерную сырасьць, але затое больш баіцца такіх хвароб, як іржа і галаўня. Дзеля гэтага ня можна сеяць пшанічнай сяўбы прад тым небайцаванай (пры помачы $1/4\%$ формаліны). Аб спосабах байцаваньня сяўбы пісала „Самапомач" летась.

Вясной на цяжэйшых грунтох, калі ральля ўжо прасохла і калі няма небясьпекі беспасярэдняга прымаразку, трэба пшаніцу збаранаваць: спачатку поле пачарнее, але пасьля пшаніца пачне лепш кусьціцца. Слабейшую пшаніцу можна цяпер выправіць прыгнойваючы салетрай на ліст. **С. Я—віч.**

*) Параконны воз мае больш-менш 10 q гною.

---

cyi, na jakuju tolki mahli-b sabie pazvolić. A što tady dziejecca z nahramadžanym u ichnich rukach kapitałam? Nie varočajecca jon u šyrokija masy, nie pavialičvaje hramadzkaha dachodu, ale ŭžyvajecca dla dalšaj pradukcyi, siłačysia prynosić dalšyja zyski. Układajucca investycyi, tvoracca novyja pramysłovyja pradpryjemstvy, pavialičvajucca staryja — pavialičvajecca dziela hetaha kolkaść vyrablanych praduktaŭ, ale nie pavialičvajecca adnačasna konsumcyjnaja i nabyŭčaja siła nasielnictva.

I heta voś jość pryčynaj, čamu kapitał u svaim raźvićci musić dajšci da samazahamavańnia... i stacca štoraz bolš niemahčymym da ŭtrymańnia. I dziela hetaha asnaŭnym žarałom kryzysu, sučasnaha pierasileńnia jość haloŭnaja zasada kapitalistyčnaha ładu, vynikajučaja z jahonaj istotnaj arhanizacyjnaj struktury — zasada padziełu hramadzkaha dachodu, zasada pradukcyi nie dziela zaspakajeńnia patreb, ale pradukcyja dziela zysku z kapitału, pry katoraj zaspakajeńnie patreb stanovicca srodkam, a zysk — metaj. Dziela hetaha možna z całaj peŭnaściu śćvierdzić... što pierasileńnie, katoraje pieražyvajem, jość pierasileńniem nie końjunkturalnym, jakoje ŭ kapitalistyčnym ładzie časta vystupała, ale pierasileńniem samaj struktury, samych asnoŭ kapitalistyčnaha ładu.

Kali heta śćvierdzim, dyk stanovicca zusim jasnym, što tolki źmiena asnovaŭ isnujučaha ładu, tolki addaleńnie pryčyn i krynic zła moža mieć upłyŭ na źmienu adnosin, moža addalić tyja niedamahańni, katoryja, pamima časovych nievialikich vahańniaŭ, musiać z hodu na hod, z piacilećcia na piacilećcie paharšacca. I dziela taho padstavovaj dumkaj kožnaj haspadarčaj prahramy, abapiortaj na realnych pradpasyłkach, musić być pierabudova ŭsiaho hramadzka-haspadarčaha ładu.

...I jašče chaču źviarnuć uvahu na adzin fakt. Pieršabytny ład u małoj tolki čašci byŭ rezultatam śviedamaj ludzkoj voli. Paŭstavaŭ jon byccam pad naciskam pryrodnych sił. Čałaviek dastasoŭvaŭsia tolki da tych sił pryrody, jakija ŭvakruh jaho dziejali, staraŭsia znajšci lepšyja sposaby dziela ich vykarystańnia, ale hetyja starańni ahraničvalisia da spraŭ drobnych. Čałaviek tahočasny nie zdavaŭ sabie spravy z całaści hramadzka-haspadarčych, a navat i pryrodnych źjavišč. Štoraz bolš adnak pavialičvałasia ludzkaja vieda, pavialičvaŭsia kruh ludzkich viedamaściaŭ... Paŭstała zrazumień-

## Сейце мешанку!

Цяжка было з кормам сёлетняй вясной, а няма пэўнасьці, што на лета ня будзе яшчэ горш. Таму трэба цяпер ужо падумаць аб тым, чым будзем карміць карову на вясну. І тут мусім спыніцца на азімай мешанцы касматай (пяшчанай) вікі з жытам. Ня можна, праўда, казаць, каб гэта была для каровы надта смашная паша — карова да яе мусіць прывыкнуць! — але затое гэта мешанка добра родзіць на нашых грунтох і дае найранейшую пашу зялёную, якую толькі вясной можна ў нас мець. А да таго, скарміўшы яе рана вясною, можна на тым-жа полі садзіць бульбу, капусту ці іншыя пашныя расьліны. Да таго-ж у гатунку глебы такая мешанка, у параўнаньні з іншымі пашнымі расьлінамі, вельмі мала пераборлівая: найлепш удаецца на грунце гліняста-пяшчаным, але можа быць і на пяскох, — абы толькі гэтыя пяскі ня былі сыпучыя. Ня родзіць таксама касматая віка на мокрых сапах.

Скромнасьць вымаганьняў касматай вікі аднак ня знача, што яна не патрапіць адудзячыцца за грунты лепшыя ці тымбольш за стараннае пагнаеньне — нават вельмі добра адудзячыцца! Высейваецца мешанка вікі й жыта ня разам: віка сеецца спачатку, у другой палове м-ца жніўня, а жыта ўсейваецца праз тры-чатыры тыдні. Самую толькі віку бяз жыта ня можна сеяць, бо яна паляжа.

Што да парадку пасеву гэтай мешанкі, дык спуставаную зямлю трэба пагнаіць хляўным гноем. Калі-ж яна даецца на поле гноенае хляўным гноем год-два таму назад, дык трэба дадаць на гэктар 300 кілё поташу (або 400 кілё каініту), 200—300 кілё томасоўкі ды 50—75 кілё азотняку; мешанка сама гэтых гнаёў ня выбярэ з поля і пакіне іх для расьліны наступнай. — Усе гэтыя штучныя гнаі даюцца на ўзаранае аржышча і прыкрываюцца бараной. Мешань прад сяўбой даецца за два тыдні.

З сеялкі высейваецца на гэктар 100 кілё вікі і 80 кілё жыта; з рукі (на шырока) высейваецца больш. Усейванае жыта ў віку прыбараноўваецца вострымі баронамі.— Каб мешанка даўжэйшы час была зялёнай, сачыстай, яе ня трэба за раз усю высейваць, а загонамі, таксама, як ня ўсю адразу такую віку можна скарміць. Азімая мешанка вікі з жытам*) дае пашу ўжо ў маі. Пазьнейшую пашу дае мешанка высяваная пазьней увосені і нават — раньняй вясной. У гэтым апошнім выпадку замест жыта ўсейваецца ў віку авёс.

Скормліваецца мешанка і на пні, але найлепш яе касіць і скармліваць у хляве. Вартасьць вікавай мешанкі тым-большая, што надбытак яе можа быць законсэрваваны ў гэтак званых сілёсах, ці ў звычайных непрапускных ямах. Гэткая консэрваваная паша вельмі важная ў гаспадарках малачарскіх. А да таго, консэрваваная ў сілёсных ямах паша гэта асэкурацыя (страхоўка) на выпадак неўраджаю іншых пашных расьлін, перад усім-жа сэрадэлі і канюшыны.

Дзеля ўсяго гэтага канешна трэба пачаць сеяць мешанку касматай вікі (vicia villosa) з збажжавінамі: жытам, пшаніцай ці аўсом.

**С. Я.**

*) найлепш браць жыта г. зв. сьвята-янскае.

---

nie pałažeńnia, zrazumieńnie cełaści źjaviščaŭ. A na padstavie śviedamaści budzicca vola. I voś, hramadzkaja vola, vola čałavieka sarhanizavanaha ŭ hramadzianstvie, moža adyhryvać i adyhryvaje štoraz bolšuju rol. I dziela taho ŭśviedamleńnie cełaści hramadzkich źjaviščaŭ, vypracavańnie prahramy maje značeńnie nia tolki navukovaje, adarvanaje, ale značeńnie praktyčnaje, bo na padstavie śviedamaści prabudžajecca vola da źmieny varunkaŭ. A kali vola prabudzicca, dyk praces, katory jość pracesam naturalnym, abapiortym na nieparušnych pravoch hramadzkaha raźvićcia, na pravie padboru ludzkaściu štoraz lepšych formaŭ dziela zaspakajeńnia svaich patrebaŭ, moža być pryśpiešany. Heta maje značeńnie dla samaha zrazumieńnia spravy.

Dadam tak-ža, što da tych pryčynaŭ, jakija isnujuć u samym raźvićciu, dałučyłasia jšče adna, katoraja viažycca z raźvićciom kultury i cyvilizacyi, z zdabyčaj hramadzkaj — pryjšło vialikaje raźvićcio techniki i pradukcyi, ruki ludzkija štoraz bolš zamieńvajucca mašynami. I heta reč, katoraja mahła-b być bahasłavienstvam čałaviectva, katoraja pazvalaje z čałavieka, jak dadatku da mašyny, zrabić čałavieka poŭnaha, katory nia byŭ-by tolki ŭ svajoj fachovaj pracy siłaj fizyčnaj, adzinkaj, katoruju možna abličać pry pomačy miery dla siły fizyčnaj, — heta raźvićcio techniki stałasia, pry isnujučaj metodzie padziełu hramadzkaha dachodu, praklaćciem usiaho čałaviectva, bo vykinuła na bruk kolkidziesiat miljonaŭ ludziej. Nie samaje raźvićcio, praŭda, jość vinoŭnikam. Bo-ž jakraz raźvićcio techniki pavinna nam pazvolić źmianić arhanizacyju hramadzianstva tak, kab ludzi nie patrabavali być dadatkam da mašyny, kab nie patrabavali tak ciažka pracavać, kab mahli svaju tvorčuju pracu raźvić na inšym poli, bolš adpaviednym da ichnych ahulnych zdolnaściaŭ, čym vykonvańnie čysta mechaničnych čynnaściaŭ.

Hetak pradstaŭlajecca sprava. Jakija-ž vysnaŭki? —

Kali bačym, što haspadarka abapiertaja na padstavie pradukcyi i abmieny dziela zysku jość pryčynaj zła, što navat toje, što pavinna być bahasłavienstvam čałaviectva, stanovicca jahonym praklaćciem, jość pryčynaj, i to stała ŭzrastajučaj, nievystarčalnaha zaspakajeńnia patreb štoraz mnohaludniejšych hramadzkich masaŭ, niadoli i nendzy ŭ horadzie i na vio-

# Неадпаведнае абыходжаньне з малаком абніжвае ягоную вартасьць.

Калі прыгледзіцца да малака, якое нашыя сяляне збываюць беспасярэдна, ці цераз малачарню, ды прыслухацца да ўсіх тых гутарак,што датычаць ягонай якасьці, дык здаецца, што людзям зусім не залежыць ані на збыце малака, ані на грошах. Прыносяць неадпаведні тавар і ня выказываюць найменшай ахвоты яго направіць. Нажаль, ня выплывае гэта з прычын ад іх незалежных, а проста такі з незразуменьня сваіх уласных інтарэсаў. Добры купец разумее, што за ўсялякую цану мусіць дастаўляць тавар найлепшай якасьці, каб тыя, што купляюць, заўсяды бралі ў яго, а ня куплялі горшага, а тады ахватней дадуць добрую цану. Праўда, што такіх сьведамых, разумных гаспадароў сярод нашага сялянства ёсьць многа, але хіба-ж болей ёсьць тых,якія сваею нясьведамасьшкодзяць сабе і другім. Бо нізкая вартасьць часткі малака абніжвае вартасьць усяго, адстрашывае клиентаў, ды абніжае цану так, што пасьля адны даплачываюць за нясумленнасьць другіх, а адныя і другія маюць страту. Адзін толькі адказ нядбалых гаспадароў гэта тое, што за такую нізкую цану, як ёсьць цяпер, то і гэтае малако добрае. Забываюцца аднак на тое, што дрэнная якасьць малака не падвысіць цаны, а на гэтым ім хіба-ж залежыць, а па другое, дык няма так нізкай цаны, якая-б змусіла чэснага чалавека да ашуканства, якім ёсьць прадаваньне бруднага, падкіслага ды на палавіну поснага малака. Направа якасьці малака ляжыць у інтарэсе сялян і залежыць выключна ад іх добрай волі.

Вось-жа перадусім **чыстата**. З бруднага хлява цяжка вынесьці чыстае малако, дзеля гэтага хлеў трэба заўсяды трымаць у адпаведным парадку. Бяліць, праветрываць, ды часам зьмясьці сталяваньне дзяркачом, бо з павуціньня, якое там вісіць, падае ў малако падчас даеньня ўсялякі бруд. Гной выкідываць часта, ды абавязкава трэба зрабіць раўчок на гнаёўку, каб ня было замнога вільгаці (гэта там, дзе скаціна трымаецца на сухой толькі падсьцілы — *тлум*). Без належнага ўтрыманьня чысьціні ў хляве ня можна чыста ўтрымаць карову, бо кожны раз, як ляжа — апэцкаецца па вушы. Дзеля таго, што бруд ад каровы лёгка дастаецца ў малако— мусіць яна быць зусім чыстая. Штодзень трэба выцерці карову саламянай вязкай (што вельмі добра ўплывае на ўсё ейнае здароў'е і малочнасьць, ды вычысьціць шчоткай. Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на чысьціню хваста, якім карова падчас даеньня абмахіваецца ды накідывае гной у даёнку. Каб ня было „караляў" з гною — хвост трэба крышку падстрыгчы і ачысьціць з брудаў. Найлепш робяць тыя гаспадыні, якія падчас даеньня прывязываюць каровам хвасты. Перад даеньнем трэба абавязкава ўсё вым'я добра абчысьціць. Гэта ня ёсьць навіна, бо чыстыя гаспадыні здаўна так рабілі і знаходзілі коль-

---

scy — treba pierabudavać hetu haspadarku na ŭłaścivaj zasadzie. Hetaj zasadaj jość pradukcyja i abmiena dziela zaspakajeńnia patrebaŭ hramadzianstva, jość **hramadzkaja pradukcyja i abmiena.**

Jak hetu pierabudovu pačać? Tut uvachodzim u sferu indyvidualnych receptaŭ. Pradusim źjaŭlajecca pytańnie asnaŭnoje — ci heta śviedamaja ludzkaja vola zdolna adrazu źmianić isnujučy ład? Naturalna, mahli-b być i takija vypadki, ale ja dumaju, što kali-b navat usio hramadzianstva, a prynamsia vializnaja jahonaja bolšaść uśviedamiłasia ab kanieśnaści źmieny, dyk takaja raptoŭnaja źmiena isnujučych paradkaŭ nie abyjšlasia b biez pavažnych strat hramadzkich i biaz uzdryhaŭ u pradukcyi i abmienie, katoryja adbilisia-b, prynamsia časova, na zaspakajeńni patrebaŭ šyrokich masaŭ i dalej, choć moža taksama tolki časova, pahoršyli-b sytuacyju. I choć možna dumać, što hetkuju chirurhičnuju operacyju musić chvory pieraciarpieć, to adnak u hetym daśledavańni (terapji) hramadzianstva źjaŭlajusia starońnikam pastupańnia nie chirurhičnaha, ale praviadzieńnia źmieny z całaj śviedamaściu, planova, pravametna i stupianiova, imienna z uvahi na intaresy hramadzkija. Tymbolš, kali nia budziem paddavacca samaabmanu, što dla hetaj prahramy chutka zdabudziem vializnuju bolšaść u hramadzianstvie, ale naahuł bolšaść. Spatykajemsia tut nia tolki z uparam, zababonami, niezrazumieńniem, niaśviedamaściu, nia tolki z adporam, jaki rodzicca naturalna ŭ kožnaha čałavieka majučaha pastanavić štoś novaje, ale z zdecydavanym śviedamym procidziejańniem z boku zainterasavanych klas hramadzianstva. Zaiterasavanyja klasy hramadzianstva, a prynamsi ekanamisty hetych klas viedajuć, što biez pierabudovy sučasnaha ładu niama hruntoŭnaj źmieny sytuacyi. Ale pierabudova vykliča dla hetych klas hramadzkuju degradacyju (abnižeńnie): ichniaje ŭčaście ŭ hramadzkim dachodzie musić źmienšycca, moža navat u vielmi vialikich raźmierach, čaść zabiranaha imi hramadzkaha dachodu musić pierajści da šyrokich masaŭ hramadzianstva. Vielmi trudna ludziom rasstacca z tym, što ŭvažajuć svaim dabrom matarjalnym i pavodle kliču adnaho z pradrevalucyjnych francuskich karaloŭ — „pa mnie choć patop",— starajucca baranić sučasnaj formy ładu ŭsimi sposabami, upłyvami ŭ panujučych kruhoch, a pieradusim

кі хвілін часу. Некаторыя гаспадыні проста выціраюць вым'я ручніком, ня мыючы, але гэта нічога не памагае й вым'я астаецца такое самае бруднае, як было. Беспасярэдна перад даеньнем трэба вымыць рукі і не датыкацца да нічога бруднага. Кожная гаспадыня павінна пастарацца сабе адумысловы, толькі да даеньня прызначаны чысты фартух, які-б закрываў усю вопратку. Даёнка мусіць быць добра вымытай і выпаранай, заўсёды перад даеньнем выпаласканай. Пры такім уважным даеньні малако будзе блізу што чыстае, а пасьля перацэджываньня дык будзе ўжо зусім чыстае. Цадзіць малако цераз драцяныя сеткі трэба закінуць, бо яно зусім незадавальняючае. Трэба цадзіць праз тканіну. Да гэтага вельмі добра надаецца танная флянэля. Дзеля таго, што цаджэньне праз тканіну трывае даўжэй, добрай бывае спэцыяльная бляшаная цадзілка, куды можна закладаць тканіну. Гэта мае тую выгаду, што цадзілка досыць глыбокая і можна наліць туды зразу больш малака і ўмеру патрэбы даліваць.

Часта занячышчаецца малако праз начыньне, у якім яго трымаецца, халодзіцца, ці носіцца. Памятайце, ды змалку прывучайце сваіх дзяцей да таго, каб начыньне ад малака зараз-жа пасьля апаражненьня дужа добра вымыць. Прысохшае-ж малако ня дасца лёгка і добра вымыцца, а пасьля занячышчае і заквашывае малако. Ніколі не забывайце таго, каб перад тым, як наліць малако ў якое-небудзь начыньне, папаласкаць яго добра, бо можа там быць пыл і сьмяцьцё. Зварочывайце так-жа добра ўвагу і на тое, дзе перахоўваецца малако. Ці няма там пылу і ці не даходзяць туды мухі, каты і дзеці? З практыкі ведаю, што пры адсутнасьці бацькоў дзеці хлебам, або бруднымі пальцамі зьбіраюць сьмятану. Вельмі важна, каб малако не стаяла ніколі ў задусе, смуродзе, ды блізка вострапахучых рэчаў, бо яно вельмі лёгка ўцягівае ў сябе ўсякія запахі, ад чаго звычайна псуецца і смак.

Ніколі ня трэба на даўжэйшы час шчыльна прыкрываць малако, бо дастае „задухі" і горкне, але як нясём яго куды, то трэба абавязкава прыкрываць шчыльнай накрыўкай, або чыстай шматкай, каб не нацярушылася туды пылу і сьмяцьця.

Другая важная справа — гэта с ь к і с а н ь н е  м а л а к а. Рэдка бывае гэта з прычыны хваробы каровы, найчасьцейшай прычынай гэтага бывае нячыстае абыходжаньне з малаком, а асабліва з начыньнем, у якім малако трымаецца. Трэба канешна выпарываць начыньне, хоць-бы яно здавалася „на вока" і чыстым, бо могуць лёгка намножыцца ў ім спэцыяльныя заразкі, ад якіх малако неспадзявана хутка кісьне або сьцінаецца (зьбягаецца). Пакуль дагадаемся якая тут можа быць прычына, змарнуецца шмат малака. Гэткую судзіну можна вычысьціць толькі колькіразовым выпарываньнем з содай. Вельмі добрай абаронай малака прад ськісаньнем ёсьць халаджэньне яго зараз-жа пасьля ўдою. Некаторыя гаспадыні кажуць, што гэта страшны хлопат, ды што малако „не даецца" халадзіць, але практыка іншых гаспадынь паказвае, што гэта зусім простая рэч, толькі мы да яе йшчэ ня прывыклі. Ды,

---

zaciamniańniem śviedamaści tej vializnaj bolšašci hramadzianstva, u intaresie katoraj jość pierabudova ładu. U hetych varunkach nie ašukivajma samych siabie, kab nam udałosia chutka zdabyć dla pierabudovy dumku navat tych mas, katoryja ŭ hetaj pierabudovie zacikaŭleny.

Dziela hetaha haspadarčaja prahrama, katoraja pastavić sabie jak hałoŭnuju metu hramadzkuju pierabudovu, musić być prahramaj evalucyjnaj, prahramaj stupianiovaha raźvićcia, jakaja biare pad uvahu pieradusim kanieśnaść uśviedamleńnia hramadzkaha i takoha rodu haspadarčuju dziejnaść, katoraja jasna pakaža płyvučyja z pierabudovy karyści. Samoj adnak zasadaj pierabudovy musić być stvareńnie systemy hramadzkaj haspadarki, abapiortaj na zasadzie zaspakajeńnia patreb, a nie na zasadzie zysku z kapitału.

Raźvivańnie haspadarki hramadzkaj, na miesca pryvatna-kapitalistyčnaj, pavinna jści ŭ čatyroch kirunkach:

Pradpryjemstvaŭ dziaržaŭnych, z charaktaram užytkoŭnaści publičnaj i z učaściem hramadzkaj kantroli (praz delehataŭ ad užytkoŭnikaŭ i pracaŭnikoŭ pradpryjemstva). — Kidaju sumyśla zdyskredydatavany klič etatyzmu. Nie chaču baranić hetaha etatyzmu, katory zasłužyŭ sabie na krytyku, ale nierazumny budzie toj ramieśnik, jaki adkidaje snaść dziela taho, što nia ŭmieje jaje ŭžyvać. Treba navučycca ŭžyvać hetu snaść, a nie adkidać jaje ad siabie... Klič etatyzmu (kazionaj haspadarki — *tłum.*) siahońnia sumyśla dyskredytujecca. Pryznaju, što jość na heta bahaty matarjał jakraz dziela taho, što tyja, chto biarucca ŭžyvać hetaj snaści, užyvać jaje nia ŭmiejuć, a tym samym dyskredytujuć samuju dumku. Zhary zaścierahajusia, što nia maju na dumcy zmechanizavanaha, zbiurakratyzavanaha etatyzmu. Nad etatyzmam, jaki maje tendencyju zbiurakratyzavacca, musić nahladać hramadzkaja kantrola samych-ža rabotnikaŭ i čynoŭnikaŭ.

Druhi kirunak — pradpryjemstvy samaŭradavyja, pry tych samych zasadach hramadzkaj kantroli.

Trecim kirunkam — hetaha nie patrabuju dakazvać — jość tvareńnie pradpryjemstvaŭ kooperatyŭnych. Heta my jakraz robim, heta jość našaj prahramaj dziejańnia, jość zadańniem našaha sektara haspadarčaha žyćcia. U mieru svajho raźvićcia, u mieru daskanaleńnia svaje pracy, štoraz lepš zaspakojvajučy

праўду кажучы, заўсяды выгадней прылажыць троху стараньняў, чым наражаць сябе й іншых на грашавыя страты ды падкопываць давер пакупца.

Ня раз трапляецца горкае малако. І ў гэтым выпадку рэдкай толькі прычынай бывае хвароба каровы. Звычайна-ж спрычыняецца да гэтага нячыстае ўтрыманьне або шчыльнае закрыцьцё цёплага йшчэ малака.

Нязвычайна нізкі працэнт клустасьці малака у гаспадынь, якія ня „хрысьцяць" малака, ані зьбіраюць сьмятаны, можа быць, паводле маей думкі, рэзультатам толькі патаемных адведзін катоў і дзяцей. Акрамя таго, можа гэта быць таксама з нявыдойваньня, бо апошнія каплі малака найклусьцейшыя і вельмі неразумна робяць тыя гаспадыні, якія з пасьпеху або праз няўвагу ня выдойваюць кароў да апошняй каплі. Найлепш пасьля выдаеньня пачакаць яшчэ колькі хвілін, а пасьля выдаіць апошнія каплі, якія йшчэ затрымаліся ў вым'і. Акрамя таго недадойваньне бывае прычынай хваробы вым'я, што можа вясьці да страты (адміраньня) аднэй або й больш сісёк, а гэтым самым і зьменшаньне дойнасьці каровы.

Як бачыце, усё гэта рэчы простыя, з якімі дасьць сабе раду кожная гаспадыня. Пастарайцеся палепшыць якасьць малака, здабыць давер пакупца, а гэтым самым здабыць сабе права на лепшыя цэцы.

**Інж. О. Дучымінская.**

*(„Сіль. Госп.").*



# Пазнаваньне гадоў каня паводле зубоў.

*(Канчатак),*

Падсумоўваючы ўсё сказанае аб выглядзе зубоў каня да 11 гадоў ягонага веку, можам зрабіць гэткі кароткі перагляд:

**Малочныя зубы** (12 рэзакоў і першыя тры зубы кутнія) вырастаюць у гэткім парадку:

**Клешчы** (першыя два зубы пасярэдзіне) бываюць ужо пры нараджэньні жарабяці або вырастаюць у колькі днёх пасьля радоў.

**Сярэднякі** (абапал клешчаў) вырастаюць пасьля нараджэньня праз . . 6—8 тыд.

**Краякі** (абапал сярэднякоў) вырастаюць праз . . . . . . . . . . 6—9 мес.

Чацьверты **кутні** зуб вырастае зразу як зуб сталы паміж . . . . 10 12 мес.

Пяты **кутні зуб** вырастае паміж 2—2¼ г.

Шосты **кутні зуб** вырастае паміж . . . . . . . . . . . . . . . . 4 5 гад.

**Клыкі** вырастаюць у самцоў, таксама зразу як зубы сталыя, паміж 4—5 гад.

Малочныя зубы **выменьваюцца** на зубы сталыя ў гэткім парадку:

| | |
|---|---|
| клешчы — у веку . . . . | 2½—3 гад. |
| сярэднякі —„— „ . . . . | 3½—4 „ |
| краякі —„—„ . . . . | 4½—5 „ |
| 1-ы і 2-і кутнія зубы—„— | 2½ „ |
| 3-ці кутні зуб —„—„— | 3½ „ |

Зубныя ямкі на рэзакох **споднядй** ськівіцы сьціраюцца ў гэткім парадку:

| | |
|---|---|
| на клешчах па . . . . . . | 6 годзе |
| на сярэднякох па . . . . . | 7 „ |
| на краякох па . . . . . . | 8 „ |

---

patreby ludzkaści, kooperacyja stanovicca padstavovaj formaj budučaha hramadzkaha ładu.

Urešcie čaćvierty kirunak — pradpryjemstvaŭ miašanych, — taksama nie patrabuje dokazaŭ.

Musim sabie ŭśviedamić, što hetkaja prahrama pierabudovy, imknučajasia da ŭviadzieńnia ŭ žyćcio i naležnaha administravańnia pradpryjemstvaŭ, jakija majuć na mecie zaspakajeńnie patrebaŭ hramadzianstva, musić z natury rečy spatkać na adpor i trudnaści pry isnujučych formach haspadarki. Prad hetymi trudnaściami nia možna ŭstupać. Ich treba pieramahać. I dziela taho tut užo musić umiašacca siła vyšejšaja, siła dziaržavy, kab zmahčy pieraškody na šlachu da novych formaŭ raźvićcia hramadzianstva. U intaresie ahułu, dziaržavie musić prysłuhoŭvać prava:

a) rehulavańnia haspadarčych funkcyjaŭ pryvatna-kapitalistyčnych pradpryjemstvaŭ;

b) vykuplivańnie ŭ razie patreby hetkich pradpryjemstvaŭ dla hramadzkich formaŭ haspadarki, vypłačvajučy doŭhaterminovymi niskapracentnymi ablihacyjami, spłačyvanymi z dachodaŭ vykuplenych pradpryjemstvaŭ.

Tut, zaznačaju, dziaržava, u mieru patreby, musić siahać da vykuplivańnia. Heta moža najbolš razić naša dahetulašniaje paniaćcie volnaści, jakoje raspaścirajecca tak-ža na paniaćcie sobskaści. Ale-ž my da hetkaha vykuplivańnia pryvykli i nikoha nia razić, što taja ci inšaja kamunalnaja haspadarka (mahistrat — *tłum.*) moža siłkom vykupić niejki budynak, kali treba ŭ danym miescy pašyryć vulicu. A ci-ž dać pracu miljonam biezrabotnych nia jość važniejšym, čym pašyreńnie vulicy ŭ mieście? I dziela taho nia treba adstupać prad tym, što ŭ danuju chvilinu razić naša pačućcio, ale jość zhodnaje z asnaŭnym intaresam hramadzkim, katory pavinien być haloŭnaj zasadaj u haspadarskaj palitycy dziaržavy i hramadzianstva.

Nia z čym inšym spatykajemsia my takža i pry vykuplivańni ziamli na ziamielnuju reformu. Dziela hetaha toje,što prapanuju, jość tolki rasšyreńniem źjaviščaŭ, katoryja z kaniešnaści nastali, abo nastać musiać...

(*dalej budzie*).



Такая-ж ямка на рэзакох **верхняй** сківіцы сьціраецца:

на клешчах па . . . . . . 9 годзе
на сярэднякох па . . . . . 10 „
на краякох па . . . . . . 11 „

Акрамя таго па 9, па 14 і па 18 годзе на верхніх краякох творыцца загрыз, які праз год сьціраецца.

Ад часу, калі сьцёрліся апошнія зубныя ямкі, азначаньне гадоў каня паводле зубоў становіцца трудным. Прыймаецца цяпер пад увагу форма папярэчнага разрэзу пярэдніх зубоў так, як гэта відаць з далучанага рысунку.




**Гэтак выглядае сьціраньне зубу:**

a) разрэз зубу у 5 годзе
b) — „ —„— „— 10 „
c) — „ —„— „— 15 „
d) — „ —„— „— 20 „

Гэты разрэз інакш выглядае ў каня на 5 годзе, інакш — на 10-тым, яшчэ йнакш — на 15-тым і йнакш — на 20 тым.

Спачатку папярэчны разрэз такога зубу мае форму папярэчна—круглую, авальную (a) ад 6 да 12 гадоў. З часам папярэчная вось гэтага разрэзу карацее і сам разрэз прыймае форму круглаватую,(b) (між 12 і 18 гадамі). Круглаватая форма з часам завострываецца і становіцца трыкутнай (c) (між 18 і 24 гад.). Урэшце папярэчны разрэз становіцца падоўжна-круглым,(d) г. зн. адваротным да таго, якім ён быў між 6-м і 12-м гадамі (a) (ад 20 году ўніз).

Састаўляючы разам гэтыя мамэнты сьціраньня плошчы папярэчнага разрэзу зубу, можам уявіць сабе гэткі парадак:

Пэрыод (пара) овальнага разрэзу зубоў трывае

на клешчах . . . . . ад 6 да 10 г.
„ сярэднякох . . . . „ 7 „ 11 „
„ краякох . . . . . „ 8 „ 12 „

Пэрыод кругавіты трывае.

на клешчах . . . . . ад 12 да 16 г.
„ сярэднякох . . . „ 13 „ 17 „
„ краякох . . . . . „ 14 „ 18 „

Пэрыод тройкутны трывае:

на кляшчах . . . . . ад 18 да 22 г.
на сярэднякох . . . . „ 19 „ 23 „
на краякох . . . . . . „ 20 „ 24 „

Падоўжна овальны пэрыод пачынаецца ад 24 году і трывае да канца жыцьця.

**А. К.**

# Крыху аб птушніцтве.

Пры ацэньваньні птушніцкай гаспадаркі робім за раз дзьве вялікія абмылкі: 1. рахуем гэту гаспадарку „*бабскай*“, а йшчэ горш — 2. малаважнай, а тымчасам курынае яйко, як добра памятаем з страшных ваенных часаў, гэта наша найпэўнейшая валюта. Падчас, калі гублялі цану розныя рублі, „осты,“ маркі і як усё гэта тады называлася, за яйко — за дурное курынае яйко! — можна было найлягчэй дастаць і фунт солі, і літру газы, і шклянку цукру, і гарнец круп — словам, калі ня ўсё, дык вельмі шмат. Можна сьмела сказаць, што курынае яйко, гэта вельмі пэўная *жывая* валюта. Але! А калі гэтак, дык ніяк ня можна глядзець на курыную і наагул птушніцкую гаспадарку, як на нешта, чым можна найвышэй пабавіцца, пацешыцца, але чаго ніколі ня можна і ня трэба ў гэтай гаспадарцы браць на важна. Жыцьцё кажа, што птушніцкая гаспадарка аднак варта ўвагі і мы тут скажам аб ёй колькі слоў.

Як усё ў гаспадарцы, так гадоўля курэй і наагул хатніх птушак сягоньня аплачваецца толькі тады, калі за яе брацца ўмела і — як кажуць — душой. Дзьве рэчы тут трэба мець на ўвазе: адпаведны падбор гатунку самых птушак і добрыя курнікі. І адно і другое ёсьць варункам як добрай якасьці яек, так і добрай якасьці мяса, якое сягоньня вымагае рынак.

Пры гадаваньні хатняй птушкі трэба прытрымоўвацца галоўных гадаўляных правіл. Маладыя кураняты, якія дзеля росту і на вытварэньне пер‘я патрабуюць у пашы мець шмат бялкоў, мусяць даставаць такі корм, у якім гэтыя бялкі ёсьць: **малако** (оснае, сабранае), **яйкі**, **мяса** (сумысьля гадаваныя чарвякі), **кроў**, **крапіва**, **соя** і г. д. Старшыя птушкі вырабляюць клустасьць (шмалец) і такіх птушак трэба карміць ужо йнакш: ім спачатку даецца корм аб‘émісты, як гарачышная ці просавая **мякіна**, кармовы **бурак**, бульба і г. д., а пасьля ўжо даецца **зерне**, якое мае ў сабе больш туку, як напр. авёс, кукуруза. На шмальц корміцца хатняя птушка або дабравольна або прымусова. Гэта апошняе кармленьне палягае на тым, што калі птушка (гусь) ўжо дабравольна ня хоча прыймаць корму, тады з мукі робяцца галкі, якія сілком напіхаюцца ў горла. Насільнае кармленьне аднак — гэта трэба ведаць — ёсьць зьдзекам над безбароннай жывёлай і таму застасоўваньне яго радзіць ня можна.

Кормячы птушку на мяса й шмальц, трымаем яе ў цесных цёмных загарадках, або йшчэ лепш — у клетках, каб найменш маглі рухацца, а праз гэта не марнавалі корму спажытага на вытварэньне шмальцу. Гэткае кармленьне трывае 2—4 тыдні. Выкормліваньне птушкі ў першыя два тыдні йдзе

лёгка й гладка, але аплатнасьць выкормліваньня ў 3-цім і тымбольш у 4-тым тыдні трэба добра правяраць з алаўком ці крэйдай у руках. На трэцім тыдні даліваюць у корм кормленым курам па лыжцы алівы.

Гусям кормленым на шмалец найлепшым кормам ёсьць авес і кукуруза. Наагулжа карміць на мяса гусей трэба пазьней, увосені, калі пахаладае. — Да кожнага такога корму трэба дадаваць пясок і дзераўляны вугаль, а акрамя таго ня можна забывацца аб вадзе, асабліва калі кормам бывае нейкае зярновае збожжа.

Шмат каму будзе хіба дзівам, калі сказаць, каб стараліся ўвосені насаджываць яйкі, каб мець на каляды сьвежыя маладыя кураняты. А гэта добра аплачваецца. Насаджваць трэба ў верасьні — кастрычніку. Найгорш пры гэтым, што ў гэту пару цяжка дастаць квактуху. Калі-б такой квактухі—курыцы ня можна было сапраўды знайсьці, дык выхады з гэтага маглі-б быць два: або запасіцца інкубатарам*), або выкарыстаць да гэтага індычку, каторай можна „ўгаварыць“, каб яна сядзела на падложаных пад яе яйках.

Нававыседжаныя кураняты першых колькі дзён кормяцца сухой кашкай. У канцы першага тыдня даём корм крыху разрэджаны: ячменны, гарачышны, просавы ці кукурузавы шрот разьмешваецца кіслым малаком. Гэтак кормленыя кураняты за два месяцы бываюць ужо добрым рыначным таварам. Пеўнікаў у апошнія два тыдні трэба адзяліць ад курачак і гадаваць іх у клетцы збажжовай абсыпкай, зьмешанай з посным кіслым малаком. Лепш чым пеўнікі растуць г. зв. каплуны (легчаныя пеўні), якія да таго йшчэ даюць лепшае мяса. У клеткі садзіць іх ня трэба.

**а. ч.**

*) інкубатар — гэта машына, якая штучна „выседжвае“ з яек кураняты.

# Як захаваць яйкі на зіму?

Яйкі на зіму можна захоўваць або у попеле, або у вапняным малацэ, або ўрэшце у гэтак званым вадзяны шкле. Разгледзім усё тэта пападрадку:

1. У попеле або ў сухім збожжы перахоўваць яйкі найлягчэй: яйко абмазваецца прад гэтым сланінавай скуркай і закладаецца радамі у папел ці ў збожжа, кожнае яйко паасобку.

2. У вапне перахоўвуюцца яйкі гэтак: паленую вапну адгашваем у бачонку ці цабэрку, добра разьмешваем, каб ня была за густая. Яйкі ўкладаем ад самага споду роўнымі радамі. прычым так, каб яйко не дакраналася да яйка. Яйкі мусяць быць чыстыя, нямытыя і сьвежыя і цалком быць пагружанымі ў вадзе.

3. Вадзяное шкло купляецца ў аптэчных складах і разам да яго даецца павучаньне, як з ім абходзіцца.



*САДОУНІЦТВА.*

# Уважайце на сады!

Навучаюцца нашы людзі памалу цаніць значэньне саду ў гаспадарцы. Але ад таго, як сапраўды каля саду трэба хадзіць— яшчэ далёка. Доказам гэтага хоць-бы яблыкі, йгрушкі і іншыя садовыя „ападкі,“ якія часта бадзяюцца па садзе бязпрыглядна цэлымі днямі і нават тыднямі, дзеля таго, што гэта „благі тавар,“ а цяпер ёсьць досыць тавару добрага. Што ападкі ня добры тавар, гэта праўда, але што ня можна іх пакідаць без нагляду, гэта двойчы праўда. А гэта таму, што такі рабачлівы яблык разводзе далей тых шкодных рабакоў, якія яго самога стачылі. Гэны рабак, гэта гусеніца матылька. Колер рабака бела-ружовы, а галоўка чорная. Гэта гусеніца, дастаўшыся на яблык, точыць яго ў сярэдзіну, аж да зярняці, а зьеўшы зярняты праточывае сабе другі ход на двор. Тыя бранзовага колеру „пілавіны,“ якія бачым пры ўходзе і выходзе гэтага рабака, гэта ягоныя адходы (кал). Выходзячы з аднаго яблыка рабак гэты нападае на другі. Як? Калі рабачлівы яблык апынецца на зямлі, дык рабак з яблыка выходзе і проста шукае на зямлі яблыка другога. А калі такой ахвяры на зямлі знайсьці ня можа, дык...па самым пні ўзноў успаўзае на дрэва і там далей шукае для сябе спажывы. Характэрна тое, што калі такі рабак не натрапіць на яблык, ходзячы па дрэве „пехатой,“ дык ён можа быць і...„лятутом:“ ён апускаецца на ўгледжаны яблык на павуціннай нітцы.

Пражорлівасьць гэтага рабака вялікая і таму вялікія робіць ён і шкоды: меншыя плады ён нішчыць дашчэнту, а большыя — робіць бязрыначным таварам, на які ня можна знайсьці нават збыту.

Дзеля гэтага патрэба нішчэньня гэтага шкодніка будзе хіба цяпер зусім зразумелая. Як яго нішчыць?

**Першая рэч:** акуратна падбіраць у садзе ўсе ападкі колькі раз у дзень і горшыя сарты скармліваць сьвінямі, а з лепшых — ачысьціўшы — рабіць яблычныя мармэляды і сокі (віна).

**Другая рэч:** Дзеля таго што і пры найбольш старанным падбіраньні ападкаў, з іх усё-ж пасьпяваюць павылазіць рабакі і распаўзьціся па садзе, трэба пастарацца як гэтых распоўзлых рабакоў сабраць і зьнішчыць. На гэта іншай рады няма, як наставіць на іх пастку на самых камлях пладовых дрэваў. Гэткай пасткай зьяўляецца накладаньне на дрэва ліпкіх паясоў, да якіх успаўзаючыя на дрэва рабакі прыліпаюць і гінуць. На сялянскія варункі, дзе няма часу бавіцца з дрэвам, досыць бывае такое дрэва абвязаць туга саламяным перавяслам,якое час ад часу здыймаецца і паліцца. Але і ліпкія паясы і тымбольш саламяныя перавяслы тады толькі памагаюць, калі кара на дрэве глад-

кая (абскрабаная); бо калі кара шурпатая, дык такі рабак зусім хітра падточыцца пад пояс ці перавясла і успаўзе на дрэва, дзе ўзноў будзе тачыць плады, або зашыецца дзесьці ў трэшчыне кары на перазімоўку на наступнага сэзону. — Трэба дзеля таго абаронныя паясы і перавяслы на дрэвах часьцей спраўджаць ці добра прылілаюць да кары. **В. Р.**

## Абгнаеньні садовых дрэваў

Агульна ведама, што садовае дрэва ня родзіць штогод, а цераз год, а то і радзей, няма ў гэтым нічога дзіўнага, бо і дрэва ня можа даваць плоду з нічога: яно мусіць мець час набраць сілы, якая крыецца ў гнаеньні. Акрамя таго нішчыцца сіла ўраджайнасьці дрэва і тым яшчэ, што пры здыйманьні пладоў абрываюцца з дрэва зародкі будучага ўраджаю, бо трэба ведаць, што ўраджайнасьць дрэва на другі год залежа ад зародкаў, якія фармуюцца на гэтым-жа дрэве год наперад, гэта знача як раз ў гэту вось пару: месяц ліпень-жнівень. Дзеля гэтага пры здыйманьні пладоў з дрэва трэба быць абярэжным і ніколі пладоў не страсаць, а толькі — зрываць рукой ці шчыпцамі на высокай тычцы.

Яшчэ большае аднак значэньне для пладовага дрэва мае адпаведнае як-бы падкармліваньне або — **гнаеньне**, асабліва цяпер якраз,(1-я палова м-ца жніўня), калі завязваюцца на дрэве тыя завязкі, з каторых на другі год будзем чакаць пладоў. Пазьней, як у палове жніўня гнаіць дрэва ня радзяць, бо яно тады позна да восені не пераставала-б расьці, а пры раньніх прымаразках магло-б зьмерзнуць; растучае дрэва вельмі чуткое на маразы.

Чым і як гнаіць пладовае дрэва?

Пладовае дрэва, як і кожная расьліна ў гаспадарцы, любіць хляўны гной, які, натуральна, ня сьмее быць сьвежым, а толькі добра перапрэўшым. Гэткі гной ня можна класьці каля самага пня, бо там дрэва ня мае „зубоў,“ якімі магло-б падаваную страву прыймаць і спажываць, ня мае тоненькіх, валаскаватых карэньчыкаў. Гэтыя карэньчыкі знаходзяцца на канцох грубых карэньняў разложаных пад зямлёй больш-менш так шырака, як самая „карона“ дрэва. Дзеля гэтага хочучы добра пагнаіць дрэва, трэба наўкруг яго, як дасягаюць сукі, выкапаць асьцярожна (каб не параніць карэньня) роў, палажыць у яго перапрэлы гной і прыкрыць узноў выкапанай зямлёй.

Акрамя хлеўнага гною, удзячным бывае дрэва і за іншы натуральны гной— за гнойную жыжку. Толькі гэту жыжку ня можна даваць чыстай, а трэба яе разбавіць вадой: адно вядро жыжкі (мачы) на 3 вядры вады. Гнойную жыжку заліваем дрэву у дзіры, парobленыя грубым вострым калом у зямлі, у абводзе тэй-жа кароны, знача так далёка ад пня дрэва, як далёка сягаюць ягоныя галіны (сукі).

Апрача гэтых гнаёў натуральных, на плоднасьць пладовых дрэваў вельмі вялікі ўплыў маюць гнаі штучныя, якіх у гэту-ж пару трэба даць пад кожны пень: па 1.5 (паўтара) кілё паташовай солі і па 3—5 кілё супэртомасыны ці хоць-бы томасыны. Штучныя гнаі даюцца на ўскапаную пад каронай дрэва зямлю і заграбаюцца. Таксама і з гнаеньнем штучнымі гнаямі ня можна пазьніцца. **В. Р.**

*PČALARSTVA*

## Paśla łaźbinaŭ.

Hałoŭny ŭziatok kančajecca tady, kali pieraćvicie bolšaść kvietak i pčoły pačnuć vykidać z vulloŭ trutniaŭ. Kali heta ścvierdzim u svajej vakolicy i ŭ pčalniku, tre' nieadkładna prystupić da ŭparadkavańnia vulloŭ. Pieradusim zdyjmajem usie nadstaŭki, nia hledziačy ci jany poŭnyja miodu ci nie. Heta vielmi važnaja rabota. Pčoły ciapier, nia majučy ŭžo nektaru na poli, pačnuć pieranosić miod z nadstaŭki ŭ hniazdo, što jość nie zaŭsiody karysnaje. U hniaździe akazacca moža šmat lišniaha miodu. Jaho pryjdziecca vykručvać na miadahoncy, ale taki miod u svajej jakaści budzie kudy horšy ad mahazynnaha. Sprava ŭ tym, što hniazdovyja vaščyny byvajuć zaniačyščany roznaj niačyścinioj pčalinaha raspłodu; dziela taho i miod z hetkich vaščynaŭ budzie ciomny i mienš aromatyčny. Tolki ŭ vulloch z małymi hniozdami prychodzicca časam čakać niekalki dzion, pokul siła pnia nie asłabnie. Źniaŭšy nadstaŭki, aparožnivajem z miodu ich na miadahoncy i stavim iznoŭ na vulej dziela asuški. Možna stavić na adzin vulej Dadana Blatta bolš jak adnu nadstaŭku, pr. 4, 5.

Pa 24 hadzinach zdyjmajem iznoŭ reštki miodu, vykručvajem i pieranosim mahazyny ŭ suchoje miesca dy pierachoŭvajem dbała da nastupnaha sezonu. Mimachodam tut padčyrknu patrebu dobraje konservacyi mahazynnych ramak, što redka zdarajecca ŭ našych biełaruskich bortnikaŭ. Najlepš pierachoŭvać nadstaŭki Dadana Bl. staŭlajučy adnu na druhuju i h. d. Samuju nižniuju stavim na adumysłovaje dno, a apošniuju prykryvajem takim samym dnom ščylna, kab nie prajšła matylica. Inšyja systemy ramak pryjdziecca pierachoŭvać

Redaktar inž. A. KLIMOVIČ Vydaviec A. DASIUKIEVIČ
Z upavažnieńnia Biełaruskaha Instytutu Haspadarki i Kultury ŭ Vilni.

Biełaruskaja Drukarnia im. Fr. Skaryny, Vilnia, Zavalnaja 1 — 2.

u specyjalnych šafach, u katorych ad času da času tre' budzie pieravieści dezynfekcyju sierkaj. (Šyrej na hetu temu napišam u nastup. numary „Samapomačy").

Pa skančeńni miadazboru i pa ŭparadkavańni nadstavak prystupajem da dalšych rabot. Padzielim ich dziela paradku na 4 častki:

1) sposaby suproć napadu pčoł,
2) dakładnaja asieńniaja revizija,
3) padhatoŭka hniozdaŭ da zimoŭki,
4) raboty paśla ŭrehulavańnia hniozdaŭ. na zimu.

## I. Sposaby suproć napadu pčoł.

Praz cełу čas hałoŭnaha zboru pčoły pryvykli da pracy, jaje palubili i jana była ich radaściu. Ciapier, kali na poli niama miadadajnych raślin, jany nia mohuć astacca biez raboty. Jany ŭsiudy raźlaciacca šukać sabie dabyčy i dziela taho słabyja i nieahledžanyja vulli lohka mohuć być achviaraj hrabieżу pčoł.

Dziela hetaha, kali tolki končycca miodazbor, treba:

1) Apuścić vulli na dny, kali-b byli jany apuščanyja ŭ čas uziatku.

2) U słabych i biazmatačnych siemjach lotki pamienšyć da pałaviny.

3) Abhledzić usie vulli, kab nia było dzir i ščylin, praz katoryja mohuć prajści pčoły-złladziejki.

4) Pravodzić usie raboty ranicaj i pad viečar; kali heta robicca ŭ dzień, tre' pravodzić rabotu bystra i nie raźlivać nidzie miodu, ani pakidać u pčalniku pustych ramak.

Kali-b zdaryŭsia napad słaboha, biezmatačnaha abo drenna abhledžanaha pnia, bortnik pavinien iści z pomaččų napadzienym pčołam, začyniajučy lotki amal zusim dy zamazvajučy ŭsie dziry hlinaju i h. d.

## II. Dakładnaja asieńniaja revizija.

Ciapier, tak jak i viasnoj, vielmi važny peryjad u haspadarcy bortnika. Ad jaho zaležуć celaść pčalnika zimoju, a paśla viasnoj gvarancyja novaha dachodu. Pčalar, dziela hetaha, pavinien znać dobra kožny pień, kožnuju siamju, kab zmahčy padhatović pčalnik da zimoŭli. Hetu važnuju rabotu nazyvajem asieńniaj ravizijaj. Jana źjaŭlajecca vielmi važnaj dziela nastupnaha: pčoły pieražyli dva peryjady:—čas rojki i miadazboru z vykrutkaj miodu. U tych siemjach, što hadavalisia matki, heta apošniaja mahła abo zhinuć u časie proihry, abo astacca niezapłodnienaj. Tak-ža i pry miadabrańni my mahli zabrać miodu bolš, jak možna i h. d. Reviziju pravodzim z kancom uziatku, kab pčoły mahli da zimy pakryć niastaču miodu, piarhi. Pry samaj revizii celaha hniazda zvaročvajem uvahu na try rečy, na 1) matku, 2) čer i 3) zapasy miodu. Matka (katoruju tre, ŭbačуć) pavinna być nie starejšaja 3 hadoŭ, zdarovaja, mieć usie nožki. Trutniovyja matki, kalekija, abo niezapłodnienyja treba zamianić zdarovymi, zapasnymi. Čer tasujecca da dziejnaści matki i pa im paznajom jaje viek i jakaść. Čer „rasstralany" pa ramcy: pobač z čarkami z čeram jość čarki z miodam, — znača, što matka staraja i maładziejnaja. U čarkach pčalinych čer trutovy śviedčyć, što trutovaja matka i h. d. Zapasy miodu, katoryja źjaŭlajucca zarukaj zimoŭli i zdaroŭja pčoł, pavinny być bortnikam dobra ahledžanyja. Treba, kab u čas revizii było, adnosna da siły siamji, prynamsia 16 kg. miodu ŭ kožnym vulli. Niechapajučuju da minimumu(16 kg)kolkaść miodu pakryvajem padkormkaj, jakuju najlepš pravieści ŭ žniŭni. Tre' mieć na ŭvazie, što da zimy čas daloki, pčoły źjaduć jašče šmat miodu i dziela taho nia možna skupicca. Nia treba bajacca pakinuć lišniaha miodu ŭ vulli. Pčoły daremna nie zmarnujuć anivodnaj kapli miodu. Apray hetaha, pčalar budzie celuju zimu spakojny, što jahonyja pčoły nia cierpiać na haładoŭku, a heta ŭžo vielmi važna.

Kolki-ž heta kłopatu z zimovaju i viasniaaju padkormkaju! Kolkaść miodu ŭ vulli paznajom pa ciažaru ramki, abo „na voka". Poŭnaja miodu ramka Dadana Blutta važyć 9 funtaŭ = 3,5 kg; „na voka"100—120 $cm^2$ pakrytaha miodu z abodvych bakoŭ važyć nia mienš $\frac{1}{2}$ kg. Pry hetym nia tre' pamianšać, lepš pabolšvać lik ahulny miodu.

Adnačasna pry revizii zvaročvajecca uvaha na razłažeńnie hniozdaŭ. Kab paśla dobra było składać hniazdo na zimu, tre' užo pry revizii da hetaha hatovicca. Z hetaj metaju ramki biaz čeru i małoj kolkaściu miodu, adčyniŭšy pašyćcio, stavim za doškaj pieraharodkaj. Pčoły miod pieraniasuć u hniazdo.

Biazmiodnyja ramki lepš za ŭsio staŭlajem na kraju hniazda. Taksama i ramki z staroj i trutniavaj vaščynaju staviacca na vonki hniazda. Paśla takoj padhatavaŭčaj raboty zusim lohka składać hniozdy na zimu.

Siem'jam małamiodnym dajecca patrebnuju kolkaść miodu, abo cukrovaha syropu. Miod možna davać nia tolki ŭ ramkach, ale i redki ŭ pasudzinach. Cukar u syrapie: 1 častka vady na 2 častki cukru, z damieškaj jakoha-niebudź kvasu (1 grm. na 1 kg. cukru): salicylovaha, cytrynovaha, vinnaha, ščaŭinaha. Padkormka dajecca vialikimi porcyjami, da 4 kg na adzin raz. Małyja porcyi padkormki vyklikajuć niepatrebnuju, usilenuju dziejnaść matki, a na ŭzhadavańnie bolšaj kolkaści čeru tre' šmat zapasnoha miodu i piarhi. Padkormku pačynajem paśla revizii i kančajem u pałovie vieraśnia.

(d. b.) *V. Papucevič.*

